Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.



# Беларуская Борць

Месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі Вільня, вул. Каралеўская, 3-8. Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 10-12 гадз.

Падпісная плата да канца году 2 зл. Заграніцу - ўдвая даражэй. Цана асобнага нумару - 50 гр. Цана абвестак паводле умовы.

№ I. Вільня, Жнівень 1934 г. Год I.






## Ад Рэдакцыі.

Сумна і сорамна, што пасьля "буйных узростаў", "шырокага разьвіцьця", нам прыходзіцца выдаваць сваю часопіс, так сказаць дагутэнбэргаўскім спосабам. Хто ў гэтым вінават? - Ніхто, апрача нас саміх: "Самі мы вінаваты ў нашай долі праклятай, у тым, што век гаруем і плачам" - кажа прарок нашага адраджэньня Янка Купала. Віна наша у тым, што мы да гэтага часу не стварылі нічога пазытыўнага, не стварылі ніводнай эканамічнай базы, на якой у мінуту трудную можна было-б абапёрціся, а праз увесь час як дзеці, бавіліся мыльнымі пузырамі, удаючы, што робім вялікую справу. Адны з нас распыляліся ў сусьвеце і згодна прынцыпу "ніякае ільлюзіі аб паправе свайго быту пры сучасным капіталістычным ладзе", - нічога не рабілі, а толькі пратэставалі і пратэставалі; другія даказвалі, што ўсё будзе добра, толькі трэба ветліва прасіць ды чакаць, а трэцьція крытыкавалі і адных і другіх ды ізноў нічога не рабілі.

Коратка кажучы нічога не рабілася, каб паправіць жыцьцё нашага народу ці прынамся хоць крыху яго аблягчыць сёньня, ужо.

І ў рэзультаце - Рэзультаты сумныя.

Што-ж рабіць, каб больш такіх памылак не паўтараць, каб ня шукаць больш апекі? - Адказ ясны: трэба тварыць свае гаспадарчыя арганізацыі ні зважаючы ні навошта, бо трэба ведаць, што ў найгоршыя часы тварыліся найсьвятлейшыя ідэі. У часы вялікіх крызысаў зарадзілася й кооперацыя, якая ў некаторых старонках, як напрыклад у Даніі, падняла дабрабыт сялянства на такую вышыню, аб якой нашаму селяніну й ня сьнілася. Дык возьмемся й мы за працу, але так, як селянін за свой загон. Арэ, сее. Адзін год ня ўродзіць, другі, а на трэці, ня праўда, будзе карысьць.

Беручы гэта пад увагу Т-ва "Пчала" ўзнавіла сваю дзейнасьць. Ужо праведзяны завочныя курсы па зьбіраньні, сушэньні і г.д. мядова-лекарскіх зёлак, завязваецца сувязь з краёвымі і заграпічнымі фірмамі дзеля збыту зёлак. Зараз выпушчаем першы нумар нашае часопісі, якая павінна стацца органам Т-ва "Пчала". Мы ведаем, што шмат спаткаем на сваей дарозе розных "аптымістаў", якія махнуць рукой ды скажуць: - э, з гэтага нічога ня будзе. Вось, каб тое ды гэна, а галоўнае, каб хто даў грошы, дык тады... Грамадзяне, ніхто грошы дарма не дае: хто дасьць грошы, той скажа рабіць яго работу.

І мы прыступаем да працы бяз грошы, веручы, што грамадзянства прыйдзе нам з дапамогаю матэрыяльна і маральна. Бяром мы галоўным чынам дзьве галіны - пчалярства ды збыт мядова-лекарскіх расьцін і дзеля гэтага перадусім зьвяртаемся да пчаляроў ды бyўшых курсантаў Т-ва "Пчала"

Пчаляры! Ад Вас залежыць разьвіцьцё і Т-ва "Пчала" і нашае ды Вашае часопісі. Ведайце, што ў Вашых інтарэсах ляжыць разьвіцьцё іх. Запісвайцеся ў сябры Т-ва і выпісвайце сваю часопісь, у якой знойдзеце фаховыя парады, як гаспадарыць у пчальніку, як і дзе лягчэй збыць мёд і воск і гэтым самым павялічыце дабрабыт і свой і сваей старонкі.

Той, хто цікавіцца справаю зёлак і захоча працаваць у гэтай галіне знойдзе ў нас і фаховыя парады і дадзеньня аб цэнах і запатрэбаваньнях рынку, і ўсё, што дапаможа яму выкарыстаць і гэтае багацьце нашага краю.

Дык за працу. Першы № "Б.В." высылаем усім як пробны, на далейшы прысылайце падпіску; прысылайце карэспандэнцыі аб ліку і стане пчальнікоў, аб мёдазборы; прысылайце цэны на мёд і воск; зварачывайцеся з усімі пытаньнямі, якія маеце ў справах пчалярскіх і справах лекарскіх зёлак. Нехай завяжацца паміж "Б.В." і яе чытачамі моцная шчырая сувязь, якая злучыць усіх пчаляроў беларусаў у адну вялікую нацыянальна-сьвядомую і эканамічна сільную сямью.

## Прадукцыя мёду і яго прадажа.

Большасьць нашых пчаляроў гоніцца за выпрадукаваньнем якнайбольшай колькасьці мёду, мала дбаючы аб яго якасьці. Кожны прадукт, кожны артыкул гандлю, лягчэй прадаць і то прадаць з добрым зыскам, тады, калі ён высокай якасьці. Гэтаксама і з мёдам.

Мёд сьпелы, густы, чысты і добрады прыгожа апакаваны хутка знайдзе купца і аплаціць нам нашу працу. Тым часам пчаляры, адны змушаныя безграшоўям, а другія проста праз хціваськь выбіраюць часта мёд нясьпелы, зусім рэдкі. Гэтакі мёд у сьвежым стане ня мае ні добрага выгляду, ні смаку, бо мае ў сабе шмат вады, цукруецца /асядае/ вельмі трудна, прытым цукруецца спсподу пасудзіны, а зьверху астаецца рэдкім.

Нясьпелы мёд пасьля некаторага часу кісьне. Часта нават невялікая колькасьць нясьпелага мёду можа папсаваць увесь збор, бо нясьпелы мёд як рэдкі ўсплывае на верх, а тут на яго нападаюць шкодныя грыбкі.

Калі хто змушаны выбраць мёд нясьпелы, то павінен яго высьпеліць штучна, наліўшы ў шырокія плоскія пасудзіны і паставіўшы іх накрытыя марляй або драцяной сеткай на сонячным мейсцы. Праз некалькі дзён лішняя вада выпарue і мёд згусьцее.

Кожны мёд чысты і сьпелы зьяўляецца вельмі цэнным спажыўным прадуктам, але па свайму складу, паху і коляру ён залежны ад тых расьцін, з якіх яго пчолы зьбіралі. І так бываюць мёды сьветлыя: з ліпы, акацыі, дзяцеліны, маліны і г.д., і цёмныя: з грэчкі, верасу і г.п. На жаль у нас вельмі рэдка пчаляры адбіраюць асобна мяды сьветлыя і цёмныя, найчасьцей мяшаюць усё разам і атрымліваюць коляр пасярэдні, хіба што ў данай ваколіцы пераважае мёд аднаго коляру і гатунку. Падзелу на гатункі г.зн. мяды ліповыя, грэчаныя і г.д. амаль што ня бывае. Хаця ў прадажы спатыкаецца вельмі часта мёд з назовам "ліпцовага", але папраўдзе ён мае ў сабе больш "ліпеня" /месяц/, чым ліпы.

Праўду кажучы агульная маса спажыўцоў не знаецца ані на гатунках мёду, ані на коляры, а тым меньш на яго складовых частках. Часта нават не адрозьніваюць меду натуральнага-праўдзівага ад фальшаванага.

Трэба прызнаць, што большасьць спажыўцоў ня мае магчымасьці практычна зазнаёміцца з добрымі якасьцямі мёду, бо ў вялікіх гандлёвых прадпрыемствах, якія купляюць мёд у маёнтках абшарнікаў, дзе пчалярская гаспадарка найчасьцей вядзецца рацыянальна, ён мае стасункова высокую цану, бо апошнюю часта збольшвае вартасьць дарагой упакоўкі.

А наш малазямельны пчаляр прадажу мёду вядзе зусім бясплянова і неарганізавана. Кожны паасобна стараецца прадаць мёд якнайхутчэй першаму лепшаму гандляру або агэнту, амаль ня кожны прадае па іншай цане, а ўжо мала хто дбае аб далейшы лёс свайго мёду -у якім стане ды выглядзе дойдзе ён да рук спажыўца. Часта бывае, што нясумленны гандляр мёд сфальшуе, а спажывец атрымаўшы дрэнны тавар траціць да яго апэтыт і дзеля гэтага запатрэбаваньне на мёд ня толькі не ўзрастае, але наадварот -паменьшаецца.

І бяз гэтага запатрэбаваньне на мёд у нас вельмі не вялікае. Людзі не дацэніваюць спажыўнай і лекарскай вартасьці мёду і часта ўважаюць мёд за ласушкі бяз якіх лёгка можна абысьціся. У іншых краёх прапаганда ужываньня мёду, як прадукту штодзеннай патрэбы, вядзецца даўно і рознымі спосабамі. Дзякуючы гэтакай прапагандзе ў Амэрыцы напрыклад, як бачым з пчалярскай прэсы, мёд зьяўляецца амаль ня штодзеннай стравай ў самай беднай сямьі, прынамсі для дзяцей. Францыя і Нямеччына ўвозяць з заграніцы мёд у сотках кіляграмаў. Англія, у якой пчалярства ўдаецца слаба, дзякуючы прапагандзе амэрыканскіх пчаляроў, увозіць да сабе штогод сотні вагонаў мёду. Украінскія пчаляры ўзяліся гэтак сама за пляновую прапаганду праектуючы выдаваць і раскідаць па краю лятучкі, выдаваць адносныя брашуры, ды арганізаваць курсы вырабу пітных мёдаў і курсы мядовых пераtвораў: пернікаў, тортаў, макаўнікаў і г.д.

Украінскія пчаляры лічаць, што мёд можна будзе прадаваць масова, калі: 1/ даць на рынак мёд сьпелы, чысты і добра апакаваны; 2/ прадаваць мёд выключна праз свае пчалярскія і коопэратыўныя арганізацыі; 3/ калі ўсе пчаляры згуртуюцца каля сваіх пчалярскіх арганізацыяў, узмоцняць іх ды разбудуюць; 4/ калі патрапяць зарэклямаваць свой мёд, як прадукт здаровай

спажывы,так што ён зробіцца неабходным у кожнай сямьі.
Як бачым справу продажы мёду стараюцца паставіць на лепшую дарогу.
Нам астаецца узяць іх пачынаньні пад увагу і падумаць аб неабходнасьці арганізаваньня збыту мёду і ў нас у Зах.Беларусі.

З. В е р а с.

Ад рэдакцыі. Просім паважаных Грамадзян Пчаляроў падаць свае увагі, думкі і праекты ў гэтай балючай справе.

Л. В о й ц і к а в а.

## М е д а д а й н ы я р а с ь ц і н ы.

Ня толькі людзі незнаёмыя з пчалярствам,але нават шмат пчаляроў лічыць пчолы такой жывёлінай,якой ні карміць,ні паіць ня трэба.
Гэтак магло быць даўней,але ў нашыя часы,калі лясы зьнішчаныя,папары загараныя і нават лепшыя нязужыткі прыведзяныя да культурнага стану, невялікі лік садоў і сенажацяў,крыху прыдарожных дрэваў і малы пажытак з абсеяных палёў ня можа задаволіць патрэбаў пчол,а прынамсі рабіць іх працу вельмі цяжкой і непрадуктыўнай.
Дзеля гэтага пчаляры,якія хочуць мець больш карысьці з сваей пчалярскай гаспадаркі,павінны даць пчолам падмогу. Не кажу,каб абсяваць цэлыя гектары расьцінамі выключна медадайнымі,якія і ў іншы які-небудзь спосаб не даюць даходу,гэта бы не аплачывалася і пры нашым агульным малазямельлі немагчыма. Можна аднак злучыць інтарэсы пчаляра з інтарэсамі хлебароба або агародніка і тады атрымліваць дваякую а то і трàякую карысьць.
Медадайныя расьціна можам разьдзяліць на некалькі групаў:

1. Фруктова-медадайныя.
2. Варыва-медадайныя.
3. Кармова-медадайныя.
4. Гаспадарска-медадайныя.
5. Насенна-медадайныя.
6. Прамыслова-медадайныя
7. Лекарска-медадайныя
8. Дэкаратыўна-медадайныя
9. Жываплоты
10. Выключна медадайныя.

Разглядзім бліжэй кожную паасобную групу.
1. Кожны ведае,якімі вясёлымі пчалінымі зыкамі напаўняецца садок у пару яго красаваньня. З самай ранняй вясны,як толькі пачынае цьвясьці агрэст,парэчкі,маліны, аж да тае пары як адцьвітаюць фруктовыя дрэвы, кожны кусьцік,кожнае дрэва ў садзе дае пчолам багаты і самы ранні пажытак. Дзеля гэтага кожны гаспадар,а тым больш пчаляр-спэцыяліст павінен паклапаціцца каб мець пры хаце большы ці меньшы садок; праца пры ём невялікая,а карысьці шмат і бяспасрэдня і праз пчолы.
2. Далей ідуць варыва. Хіба не знойдзецца гаспадыня,каторая б,як толькі сьнег зыйдзе,не пачала кратацца каля гароду сеючы тое ўсё варыва якое ў восені павінна запоўніць яе варыўню і праз зімовыя месяцы пракарміць сямейку. Мо нават ня кожны ведае,што гэтакая звычайная варыва,як агуркі,мак,шальбабон /фасоля/ і інш.належаць да медадайных. Аднак так ёсьць і яны даюць пчолам пажытак хаця і ня вельмі багаты.
3. Ня можа ён зраўняцца з тым пажыткам,які прыносяць пчолам расьціны кармова-медадайныя. Даволі успомніць сэрадэлю,віку,пялюшку і інш. з якімі нашыя селяне што раз лепш знаёмяцца.
З канюшыны чырвонай пчолы біруць нектар /сок/ вельмі рэдка,хіба тады,калі канюшына расьце слаба і мае маленькія галоўкі,гэта дзеля таго, што пчолы маюць кароткія трубачкі і ня могуць дастаць нектару з глыбіні даволі доўгіх і вузенькіх кветачак. Але ёсьць іншыя канюшыны напр.белая дзяцеліна і швэдзкая,якія даюць пчолам аграмадны пажытак. Практычныя пчаляры радзяць сеяць гэтыя канюшыны разам з чырвонай ў такім стасунку: 2 гарцы чырвонай,поўгарца швэдзкай,поўгарца белай,а да таго дадаць поўгарнца цімафейкі,травы таксама для пчол карыснай. Белая канюшына,як самая раньняя цьвіце ўжо ў пачатку чэрвеня;ў палове гэтага месяца разрастаецца і пачынае цьвясьці чырвоная,але пачакаўшы некалькі дзён выбіваецца з гушчару швэдзкая і пакрывае поле сваімі ружовымі кветкамі. Дзе недахват лугоў і балот,там часта сеюць мешанкі на зялёную пашу для жывёлы. Вось і тут трэба помніць аб пчолах;даволі дзеля гэтага падбіраць на мяшанкі такія расьціны,як віка,пялюшка,гарох і г.д.

/працяг будзе/.

## К а л е н д а р ы к<br>м е д а д а й н ы х р а с ь ц і н.

У жніўні цьвятуць:

Агурочнік
Агуркі
Асацец дзікі
Асацец грэцкі
Баркун жоўты
Дзяцеліна
Гарбуз
Грэчка
Ізоп

Канюшына швэдзкая
Мэліса
Сонешнік
Рэзэда /кветка/
Сэрадэля
Шальбабон
Верас
Фацэлія /позная для пчол/
Шанта /белая крапіва/

Уплаўнік
Заложнік
Дзядзяк
Залётнік
Заячая капуста
Пазалотка
Макі Шарлея
Дзярошка
Сонешнік дэкаратыўн.

П ч а л я р - Б е л а р у с,
калі Ты яшчэ не сябра
Беларускага Коопэрат.Таварыства
П ч а л а,
дык зараз-жа запішыся.

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ У СПРАВЕ ЗЁЛАК.

Таварыства "Пчала" распачынаючы акцыю прапаганды збору мядова-лекарскіх зёлак разьлічвала,што ў сучасны мамэнт цяжкога крызысу і агульнагазьбядненьня акцыя гэтая будзе на часе і знойдзе прыхільнікаў. І,як аказалася,надзея Т-ва зусім была слушная. Ня толькі што нашыя селяне, безработныя і вучнеўская моладзь узяліся за збор зёлак і стала прысылаюць ды прыносяць у Т-ва "Пчала" большыя ці меньшыя колькасьці розных гатункаў,але нават нашыя браты беларусы ў Амэрыцы зацікавіліся гэтаю справаю і хочуць узяць у свае рукі гандаль нашымі зёлкамі пакульшто ў гор. Чыкаго.

Заграніца наагул патрэбуе шмат лекарскіх зёлак,а асабліва Паўночная Амэрыка,дзе работнік дарагі і збор мяйсцовых зёлак не аплачываецца ды апрача таго шмат якія зёлкі,каторых у нас аграмадныя колькасьці там зусім не растуць. Год у год тысячы кіляграмаў нашых зёлак скупляных па весках дробнымі гандлярамі,праз розных агентаў ды вялікія гандлёвыя фірмы вывозіцца ў Амэрыку. І так кожная партыя зёлак праходзіць праз рукі некалькіх асоб і кожны на гэтым зарабляе. Сягодня,дзякуючы зацікаўленьню гэтай справай Беларускай Арганізацыі ў гор.Чыкаго,мы можам свае зёлкі высылаць туды бяспасярэдня,што дасьць нам магчымасьць плаціць лепшыя цэны нашым зьбірачом,разумеецца тады,калі будзем атрымліваць тавар першай якасьці.Гэты апошні варунак неабходны каб заваяваць рынак для свайго тавару і пабіць канкурэнцыйныя фірмы,якія дагэтуль зёлкі ў Чыкаго дастаўлялі.

Трэба каб нашыя зьбірачы, а тымбольш праслухаўшыя курс аб арганізацыі збору і гандлю лекарскімі зёлкамі,ўзялі пад увагу ўсе выгады,якія дасьць такі безпасярэдні гандаль з заграніцай і 1/ прыкладалі якнай - больш стараньня зьбіраючы і прыгатаўляючы зёлкі, 2/ не сьпяшаліся прадаваць свой тавар розным гандляром. Дробныя гандляры часта на дарозе пераймаюць фурманкі,або жанчын з сырымі зёлкамі ды скупляюць іх за бязцэн. З купляным таварам ня робяць сабе ніякай цэрамоніі: сушаць іх над хлявамі,мяшкі з гатовымі зёлкамі трымаюць у складах з рознымі сьмярдзючымі таварамі,як газа,селядцы і г.п.,сьпяць на іх і г.д. Гэтакія зёлкі зразумела трацяць сваю вартасьць і прадаюцца па вельмі малой цане,а апрача таго псуюць апінію нашым зёлкам.

Ад нас залежыць падняць іх вартасьць і прыдбаць сабе лепшую карысьць.

Ня трэба чакаць,ня трэба адкладаць!

Не забывайце,грамадзяне,што запатрэбаваньне на зёлкі ў ж о ё с ь ц ь , дык приступайце зараз-жа да працы і зьбірайце старанна ўсе тое,што яшчэ можна зьбіраць /Гладзі календарык зборкі/.

У канцы мусім прыпомніць адну важную рэч. Не ганяйцеся каб сабраць шмат розных гатункаў,выбірайце сабе адно,дзьве,тры зёлкі ды такія,якіх у Вас шмат і зьбірайце іх якнайбольшую колькасьць.

Зьбіраючы зёлкі -помні аб будучыне.Астаўляй дзе ня дзе паасобныя расьціны на развод.

## Стараймася ўсё выкарыстаць.

Надыходзячая восень прымушае іноў парушыць справу, якая хаця ня мае нічога супольнага з пчалярствам, ані з лекарскімі зёлкамі, але выклікана гаспадарча-гандлёвымі патрэбамі і мусіць заняць мейсца на старонках нашае часопісі. Гэта справа насеньня дзікіх яблыняў і грушаў.

Сухая вясна і вялікі лік шкоднай мошкі вынішчылі шмат школак, якія трэба засяваць нанова. Запатрэбаваньне на насеньне дзікіх яблыняў і грушак прадбачыцца вялікае і -паўторыцца старое зьявішча: насенныя фірмы будуць выпісываць насеньне з заграніцы -бо краёвага ... каму зьбіраць. -Чаму гэта? Чым гэта вытлумачыць? Няўжож мы, жыхары Заходняй Беларусі гэтакія багатыя, што спакойна глядзім, як марнуецца дабро, а залатоўкі плывуць заграніцу А што ў нас насеньне ёсьць і сабраным быць павінна гэта ведаюць і ў іншых краёх; доказам можа служыць факт, што ў мінулым годзе Эстонія запатрэбавала ад аднэй віленскай насеннай фірмы вялікай колькасьці насеньня, якога разумеецца няблыло і як Эстонія, так і Вільня выпісывалі яго з Вены. -У 1931 годзе адна толькі віленская фірма выпісала з Парыжа 12 кіл. насеньня дзічак, якія там гадуюцца сумысна дзеля прадукцыі насеньня.

У прошлым годзе на старонках "Шляху Моладзі" быў зьмешчаны заклік да нашай моладзі, каб зьбірала насеньне дзічак. Нажаль бяз рэзультатаў. Сягодня зварочваемся да пчаляроў, якія павінны быць навучаныя прыкладам пчолкі, што з дробных капеляк нэктару складае цэлыя плястры-багацьце вульля.

Не пазваляйце, каб насеньне дзічак дарма прападала Зьбірайце самі, заахвочывайце другіх. Праца гэта лёгкая і не марудная, заўсёды аплоціцца.

Сабраўшы сьпелыя дзікія яблыкі ці грушы /з чорнымі зярнятамі/ сыпем у бочку закапаную ў хляве /дзеля цяпла/, перасыпаючы кожны пласт зямлёй. Калі яны добра перагніюць, выбіраем іх на рэшэта і пераціраем рукамі, паліваючы ўвесь час вадою. На рэшаце астануцца чыстыя зярняты. Перасушываем іх на сітах ці рэшэтах на вольным паветры. У печах сушыць нельга, бо зярняты страцяць здольнасьць прарастаньня. Да часу прадажы трымаем у сухім мейсцы.

У прошлым годзе за 1 кгр. насеньня яблыкаў плацілі 5 залатовак, грушак -7 залатовак. -Сёлеткія цэны яшчэ ня усталеныя, але ў кожным выпадку ніжэйшыя ня будуць, а можа нават падымуцца.

Пэўныя цэны падамо ў наступным номеры "Бел. Борці".

Насеньне дзічак кожны зможа прадаць праз пасярэдніцтва Т-ва "Пчала".

У выпадку, калі б сабранага насеньня прадаць не ўдалося, заўсёды можна яго выкарыстаць закладаючы школку дзічак, якія маюць вялікі збыт.

Віленшчына мае толькі адну школку дзічак уласьнік якой прадае дзічкі па 120 залат. за 1000, ў той час, як школкі ў гор. Плоцку бяруць за тысячу па 60 зл. Жыхары віленшчыны больш ахвотна купляюць дзічкі мяйсцовыя, прыстасаваныя да тутэйшага клімату, чым прывазныя, але падвойная цана шмат каго палохае.

Залажыўшы школку і паставіўшы на дзічкі нармальную цану, заўсёды можна лічыць на добры збыт.

Астап Вішня

## ЯК Я ВУЧЫУСЯ ПЧАЛЯРАВАЦЬ..

/Праўдзівае здарэньне/

Гасьціў я неяк на вёсцы ў вельмі добрага чалавека, Сымона Андрэявіча, народнага вучыцеля і вельмі практычнага пчаляра...

Сымон Андрэявіч быў вельмі ласкавы і ўзяўся навучыць мяне пчаляраваць, даказваючы мне, ўсімі спосабамі, што пчалярства вельмі даходная штука, а добра наладканая пчалярства вельмі вялікая дапамога народнай гаспадарцы.

Учыце, кажу... Будзем, -кажу, -народную гаспадарку палепшаць.

Узяліся, значыцца, мы вучыцца... Спачатку ўсё пашло добра... Ужо я ведаў, што драўляная скрынка, дзе гудзяць пчолы, завецца -вульлей.

Дзірачка, куды пчолы ўвахадзяць і скуль вылазяць -гэта вылет.

Даведаўся я пра калоды і пра рамовыя вульлі...

Паказваў пальцам на пчальнік:

- Гэта Дадан!
- Гэта Лявіцкі!

Коратка кажучы, радаваўся і я, радаваўся і Сымон Андрэявіч.

- З вас, -казаў мне Сымон Андрэявіч - не благі будзе пчаляр...
- Пастараюся, -кажу. -Вельмі ўжо, кажу, мёд салодкая і смашная штука.
- Вельмі ўжо, кажу, мне пчалярства падабаецца.

Прачытаў мне Сымон Андрэявіч лекцыю пра тое,якая карысная штука мёд,як лекі, як пчальнік добра ўплывае на чалавека, як ён дапамагае - бюджэту і.г.д.і г.д.

Буду,думаю сябе, пчаляраваць. Кожны вечар мы елі мёд... І з гарбатай мёд елі. І з піражкамі мёд елі.

Буду,думаю сябе, пчаляром.

- А заўтра -кажа Сымон Андрэявіч, - будзем вульлі аглядаць, будзем праверацъ. Пазнаёмлю Вас з пчалінай сямьёй, з унутраным жыцьцём.

Настала заўтра.

- Пойдзем.

- Пойдзем, -кажу.

- Сеткі надзяваць ня будзем,бо пчолы -кажа Сымон Андрэявіч, - у мяне спакойння "Італіянскія". Вы толькі стаіце спакойненька, не размахівайце рукамі. Спакойна стаіце. Найгалоўнейшае спакой... І ніякая тады вас ня ўкусіць...

- Пастараюся, -кажу, - стаяць спакойна. І рукамі махаць ня буду.

Мы пайшлі...

Зьняў Сымон Андрэявіч стрэшку.

Дззз... Дззз...

Нічога... Нічога... Гэта яны спачатку, зараз супакояцца. Не махайце рукамі.

- А хіба я махнуў?

- Махнулі!

- Гэта сама рука махнула!

- Не махайце!

- Ой,глядзіце,пане вучцель самі,а я ўцяку! Ай!

Рушыў я паміж вішняком... Заплюшчыў вочы і перавярнуў калоду...

- Падайце, - крычыць Сымон Андрэявіч.

- Мусіць не ўпаду, - крычу. Куды мне далей уцякаць

Ускочыў я ў крыніцу. Занурыў галаву ў ваду... Выскачыў потым з яе, пераскачыў праз плот ды на вуліцу да школы.

Дзеці пакінулі забаву:

- Глядзіце,як дзядзька шпарка бяжыць! Чаго гэта ён так?!

Ускочыў я ў школу... Прыбегла Ганна Сьцяпанаўна... Пачала вытрасаць "італьянку" з-за пазухі...

Потым прыкладалі дзесяткі, амоніякам націралі.

Апух я і вельмі мне ўсё балела.

..............................

Ня вывучыўся я на пчаляра. Давялося ісьці ў пісьменьнікі...

Усё ў мяне ў пчалярстве добра. І я яго разумею. І карысьць з яго разумею...

Вось толькі не магу, каб не махаць рукамі.

Прабачце,сябры,маей руцэ;яна ня можа ўтрымацца...

А пчол усё-ткі разводзіце...

Толькі не размахівайце,калі ласка, рукамі.

З украінскага пераклаў А. Войніч.

## З ЧУЖОГА ЖЫЦЬЦЯ.

**УІ Усеславянскі Пчалярскі Кангрэс.** Сёлета 26 да 30 жніўня ў Белградзе /Югаславія/ адбудзецца УІ-ты Усеславянскі Пчалярскі Кангрэс, злучаны з пчалярскай выстаўкай.

**Угодкі.** У месяцы траўні с.г. славэнскія пчаляры сьвяткавалі 200-летнія ўгодкі нараджэньня свайго вялікага пчаляра Антона Яншы, які радзіўся ў 1734 г. ў сямьі беднага селяніна пчаляра славэнца з Брэжніцы ў Краіні. Будучы маладым хлапцом Антон Янша вельмі цікавіўся навукай і дзякуючы дапамозе заможных людзей вучыўся раней ў сваей бацькаўшчыне, а пасьля ў Італіі. Вярнуўшися дамоў у хуткім часе здабыў сабе славу,як паступовы пчаляр. У той час у Аўстрыі,да якой належала Краіна,панавала Марыя Тэрэса,якая вельмі дбала аб падняцьці гаспадаркі,а перадусім пчалярства. Пачуўшы аб Яншы,запрасіла яна яго на вучыцеля пчалярства. А.Янша быў першым вучыцелям рацыянальнага пчалярства і выдаў дзьве важныя кніжкі,ў якіх апісвае свае спосабы пчаляраваньня.

**З Т-ва "Рій".** У 1933 годзе Украінскае Кооп.Т-ва "Рій" прадало 25000 кілаграмаў мёду,які атрымлівала ад сваіх сяброў на коміс. Сёлета,пры збольшанай сьвядомасьці сярод украінскіх пчаляроў,справа прадажы будзе пэўна выглядаць яшчэ паважней.

## З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ.

В і л ь н я. Сёлета з зімы пчолы вышлі сярэдня. Шмат у каго адмёрла з голаду,бо,ведама,летась быў слабы збор, і пчолы мелі невялікія запасы мёду. Вясна хоць і раньняя была, але у пэўны час сталі халады , якія затрымалі разьвіцьцё маладых пчолаў. Далей пайшла засуха, якая пакрылася з пачаткам медабраньня. З ліпаў пчолы амаль зусім нічога не сабралі дзеля тэй прычыны,што ліпы сёлета цьвілі вельмі слаба, -можа нават таму,што было вельмі суха. Як адцьвілі ліпы, пайшлі дажджы, але ў Вільні ўжо нешчага было браць за выключэньнем гародніх ды садовых расьцінаў. Грэчкі ў ваколіцах майго пчальніка амаль зусім ня сеюць. Скончылася медабраньне з благімі скуткамі: пчолы узмацаваліся, яшчэ усё множацца,а мёду ў абрэз, а некаторыя трэба і падкарміць. Словам, сёлета пчаляры ў Вільні знску ня маюць. І для пчол і для пчаляроў год цяжкі.

Д э л я т ы ч ы, пав Наваградзкі. У Дзлятычах і аколічных вёсках справа пчалярства стаіць пямысна.У ваколіцы ёсьць болей як паўтары соткі вульлёў, з якіх на Дэлятычы прыпадае сорак штук. Усе пчаляры,за выняткам аднаго вучыцеля паляка, сьвядомыя беларусы, тады як па за Д-мі пчалярствам цікавяцца найбольш асаднікі. Пчаляры у нас больш пачынаючыя. Ёсьць пара і старых, якія ахвотна дапамагаюць пачынаючым як парадамі, так і натураю. Пераважаючая сыстэма вульлёў Дадан-Блята. Штогод прыходзіцца купляць да 20 кіляў вузы. Закуп робім праз Наваградскі сындыкат. Даведаўшыся аб узнаўленьні працы у Беларускім Т-ве Пчала пчаляры беларусы лічуць сваім абавязкам навязаць сувязь з роднай арганізацыяй, уступіць у сябры і вясьці праз Пчалу свае гандлёвыя транзакцыі.

Т а б р ы ш к і ,пав.Віленска-Троцкі. Табрышкі ціхі куток нашай Бацькаўшчыны. Вузкія палоскі,з якіх трэба пракарміць вялікія семьі,змушаюць шукаць заработку,каб магчы як-колечы пражыць. Але дзе і як зарабіць ломіць галаву наш селянін і нічога ён прыдумаць ня можа,бо зарабіц цяпер няма дзе. І вось якраз у пару Беларускае Т-ва "Пчала" сарганізавала аддзел лекарскіх зёлак,што можа заспакоіць большыя кругі безработных масаў,даючы ім пэўную працу ў кожнай пары году Ахвота ў нас да зьбіраньня зёлак ёсьць вялікая тым больш,што гэтай справай могуць заняцца старыя й малыя,каторыя да іншай працы няздольныя. Аднак,на жаль, у гэтай справе малое ўсьвядамленьне і вельмі былоб пажадана,каб гэтым заняліся гурткі Інстытуту Гаспад.і Культуры як у Юшках,Кейпунах і іншых мясцох.

Паглядзімо цяпер, як стаіць справа ў нашай ваколіцы з пчалярствам. На самым пачатку мушу зазначыць,што пчаляры ў нас самавукі і пакуль яны здабудуць якуюсьці практыку, борць вельмі пацерпіць і карысьці з яе гаспадар будзе мець мала. Тыя вось,каторыя на пчалярстве знаюцца добра, часта маюць шмат раёў і ня могучы іх усіх утрымаць у сябе,адлаюць на су палку другім. Самастойных пчаляроў у нас ёсьць вельмі мала.Так вось як выглядаюць зёлкава-пчалярскія справы ў нас цяпер. У будучыні аднак спадзяюся,што гэтыя справы пойдуць шыбка наперад, а яшчэ шыбчэй -калі адпаведная беларуская літэратура і часопісі будуць друкавацца і лацінкаю,бо на жаль гражданкай у нас умеюць чытаць вельмі мала.

## ХРОНІКА Т-ВА "ПЧАЛА".

У чэрвені-ліпені с.г. Т-ва выдала завочныя курсы па збору мядова-лекарскіх і лекарскіх зёлак,у апрацаваньні гр.Л.Войцікавай і студэнта мэдыка Віленскага Унівэрсытэту В.Тумаша. Курсы сабралі 54 падпішчыкаў, якія рэкрутаваліся са ўсіх слаёў беларускага грамадзянства. Найбольшы лік падпішчыкаў прыпадал на паветы Горадзенскі, Маладэчанскі, Баранавіцкі і Несьвіжскі па 5, Дзісненскі -4, Ваўкавыскі,Пастаўскі,Стаўпецкі,Касаўскі і Вілейскі па 3, з рэшты паветаў па 2 і І курсанту.

Ц э н ы м ё д у. У Вільні 20 жніўня за мед плацілі: у гурце па Ізл.60 гр. - Ізл.70 гр. за кіляграм.; дэталічна мёд прадаваўся па 2 зл.

Ветліва просім прысылаць нам усялякія песьні,казкі,прыказкі,жарты і апісаньня звычаеў, зьвязаныя з пчоламі,пчалярствам і зёлкамі.

Цэньнік на зёлкі будзе надрукаваны у наступным № "Бел.Борці",які выйдзе пасьля 20 верасьня.

Падаемо сьпісак зёлак,на якія ёсьць запатрэбаваньне ў краі: к а р э н ь н я : панчошніку ці сабачага мыла, пырніку, арніку, малачаю лапуха, валерыяну і воўчай ягады; л і с ь ц е : чарніцаў, мачанічніку,

воўчай ягады, блёкату і бабку; ц ь в е т : васілька і арніку; з е л ь - л е /цэлая расьціна/ : расічкі, сардэчніка ці цэнтуры, сьвятаянскага зельля, цанцылеі /чыстацелу/ ; я г а д ы: маліны, суніц /паземак/, чарніц і ялаўца; кара крушыны, н а с е н ь н е : кміну і кропу; пылок дзеразы, спарыньня /ражкі/, цьвет ліпы.

## П А Ш Т О В А Я   С К Р Ы Н К А .

Е.Мамчыцу. Карэспандэнцыю зьмяшчаем. Статут высылаецца. Прышліце карэспандэнцыю аб сёлеташнім мёдазборы.

гр.Корчыку. Запатрэбаваньне на насеньне сасны і ёлкі толькі рэдкія выпадкі, і зьбіраць яго не аплоціцца. Зьвярніце увагу на арт. "Старайма-ся ўсе выкарыстаць".

П.Гапанёнку. Адказ на пісьмо выслалі. Паведамце аб сваіх далейшы праектах і пачынаньнях. Ці атрымалі адказ ад інж. Гаўрыленкі. Напішыце як стаіць у вашай ваколіцы справа пчалярства і мёдазбору.

У в а г а. Падпішчыкаў завочных курсаў, якія не урэгулявалі сваіх рахункаў, Т-ва "Пчала" просіць прысьпяшыць з высылкай грошаў.

У в а г а. Прысылайце ўсялякія запытаньні і на старонках нашае часопісі атрымаеце падрабязныя адказы і інфармацыі.
Хто апрача таго хоча атрымаць адказ лістоўна, павінен праслаць паштовую марку на 30 гр.



Выдавец-Рэдактар Л. В о й ц і к а в а.